БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

8 кастрычніка 1994 г.
Субота
№ 108 (13825)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года


**У НУМАРЫ:**



Малюе Віктар ДУБОВІК





**Сыплецца золата восені.**

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### ПАСТАНОВА СУПРАЦЬ ЧУМЫ

*У мэтах нераспаўсюджвання ў рэспубліцы чумы Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў: забараніць да асобага ўказання турыстычныя і камерцыйныя паездкі грамадзян Рэспублікі Беларусь у рэспубліку Індыя.*

Асоб, якія вяртаюцца з Індыі і іншых небяспечных па чуме краін, падвяргаць абсервацыі або амбулаторнаму медыцынскаму назіранню па паказаннях.

### СВЯТА ВЫКЛАДЧЫКАЎ

*Па ініцыятыве ЮНЕСКА 5 кастрычніка цяпер будзе адзначацца як Міжнародны дзень выкладчыка. У гэты дзень у 1966 годзе Міжнародная арганізацыя працы і ЮНЕСКА прынялі сумесную рэкамендацыю аб умовах працы выкладчыкаў.*

У 1966 годзе ў свеце налічвалася 16 мільёнаў выкладчыкаў, сёння іх — амаль 47 мільёнаў. Аднак гэты рост зусім не азначае паляпшэння ўмоў працы: за той жа перыяд колькасць студэнтаў павялічылася з 372 да 527 мільёнаў. Заняткі па-ранейшаму праводзяцца ў перапоўненых аўдыторыях. Цяжкім становішчам прафесіі і выклікана жаданне аўтарытэтных арганізацый адзначаць прафесійнае свята ў міжнародным маштабе. Ужо больш як сто дзяржаў падтрымалі гэту ініцыятыву. Мяркуецца, што ўрады, нацыянальныя камісіі па справах ЮНЕСКА, няўрадавыя арганізацыі і асацыяцыі кожны год 5 кастрычніка будуць праводзіць розныя мерапрыемствы з мэтай засяродзіць грамадскую ўвагу на важнейшай сацыяльнай прафесіі, якая павінна, адпаведна сваёй ролі ў грамадстве, дастойна аплачвацца.

БЕЛІНФАРМ.

### "ПАКУТЫ" ПА МАСЛУ

*Днямі на паліцах магазінаў з'явілася масла коштам не 3916 рублёў, а ўжо 5066 рублёў за кілаграм. Ходзяць чуткі, што тое ж самае ў вельмі хуткім часе чакае і цукар. За каментарыем мы звярнуліся ў Міністэрства гандлю Беларусі.*

Намеснік міністра Генадзь Мельнік быў здзіўлены. Павышэнне цэн на масла для яго аказалася навіной. Размовы вакол цукра назваў вельмі перабольшанымі.

А вось у аддзеле цэнаў гэтага ж міністэрства для чытачоў нашай газеты паспрабавалі нешта растлумачыць. Напрыклад тое, што ў цану масла сталі ўключацца працэнты за крэдыт. Але гэта не галоўнае, бо яны (працэнты) невялікія. Адпаведную ролю адыграла чарговае павелічэнне закупачных цэнаў, рост адпускных цэнаў прамысловасці. Які лёс чакае цукар, будзе залежыць ад цэн на гэты прадукт на заводах.

Атрыманая інфармацыя не афіцыйная і далёка не поўная. Нас ветліва папрасілі не называць імя (захаваць канфедэнцыяльнасць размовы) і лепш патэлефанаваць у дзяржаўную ўстанову, якая займаецца толькі гэтымі праблемамі — Дэпартамент цэн Рэспублікі Беларусь.

Дырэктар Дэпартамента Аляксандр Грэцкі не стаў нават размаўляць і накіраваў у сваю чаргу ў Міністэрства сельскай гаспадаркі і вытворчасці Беларусі. У Міністэрстве сельскай гаспадаркі і вытворчасці параілі звярнуцца ў Кабінет Міністраў...

Святлана Кулікова.

### ПРЭС–КАНФЕРЭНЦЫЯ З НАГОДЫ ...

*У прэс–цэнтры акцыянернага таварыства "Маладняк", размешчаным у Беларускім Доме друку адбылася прэс–канферэнцыя з нагоды 70–годдзя ўтварэння Беларускага Таварыства інвалідаў па зроку.*

Перад журналістамі выступіў і адказаў на іх пытанні Старшыня Цэнтральнага праўлення таварыства Анатоль Нятылькін. У прыватнасці, ён падкрэсліў, што ва ўмовах эканамічнага крызісу ў асабліва бядотным становішчы апынулася прамысловасць арганізацыі інвалідаў па зроку. Ідзе скарачэнне рабочых месцаў, звужаецца сацыяльная база, якая раней утрымлівалася за кошт прыбытку прадпрыемстваў таварыства, многія людзі з недахопамі органаў зроку застаюцца за бортам жыцця. А.Нятылькін выказаў надзею, што новыя ўлады звернуць увагу на гэтыя праблемы, у сувязі з чым прэзідэнту Рэспублікі Беларусь накіраваны зварот, з прапановамі таварыства аб магчымай падтрымцы гэтай катэгоры грамадзян.

(УЛ.ІНФ.).

### НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ПРАБЛЕМЫ

*Як вядома, у чыгуначнікаў Беларусі сёння шмат праблем. І вырашаюцца яны не заўсёды паспяхова. А вось калектыў Жыткавіцкай чыгуначнай станцыі нават у найскладанейшых умовах здолеў атрымаць немалую суму дадатковых прыбыткаў у першым паўгоддзі бягучага года.*

Зараз тут ідзе будаўніцтва пуці для выгрузкі сыпучых грузаў самацёкам, увод якога запланаваны на канец кастрычніка — пачатак лістапада.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

### СЛУЖБА ЗДАРОЎЯ ДЛЯ ПАЖЫЛЫХ

*На Віцебшчыне створана спецыяльная герыятрычная служба. Пасада няштатнага ўрача–герыятра ёсць тут ва ўсіх тэрытарыяльна–медыцынскіх аб'яднаннях гарадоў і раёнаў.*

Пажылым людзям часам патрэбны не столькі лячэнне, колькі догляд. У Бачэйкаўскай участковай бальніцы створаны дзесяць сацыяльных платных ложкаў для шпіталізацыі старых людзей. Герыятрычныя аддзяленні ёсць таксама ў Оршы, Віцебску, Полацку, Бягомлі.

Уладзімір МІХНО.

### ПАЛАЦ ПРЫМАЕ ВІНШАВАННІ

*Тэатралізаванае свята пад такой назвай прайшло ў сталічным Палацы дзяцей і моладзі. 30–годдзе апошняга — вось нагода імпрэзы. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел ансамблі "Зорачка", "Чабарок", "Кубанскія казачкі", цыркавая студыя. Прыемным падарункам стаў нумар ілюзіяніста А.Бурачэўскага.*

Нягледзячы на сціплае ўбранне, "юбіляр" выглядаў дастаткова святочна. Паводле слоў аднаго з арганізатараў угодкаў І.В.Навіцкай, невялікія "тэхнічныя" недарэчнасці не сапсавалі настрой: гледачы іх папросту не заўважылі. Канцэрт, што бачна было па вачах дзятвы, усім спадабаўся. Дзякуй за гэта ягоным арганізатарам і ўдзельнікам.

Настасся ДЗЯМБІЦКАЯ.

### МАЛПЫ Ў МУЗЫЧНЫМ САЛОНЕ

*Рынак так імкліва пранік у наша жыццё, што нават стаў паціху выцясняць мастацтва.*

Напрыклад, мастацка-музычнаму салону "Музыка" прыйшлося значна пацясніцца: у левым крыле магазіна размясціўся аўтамабільны салон, а ў правым — валютны магазін і абменны пункт. Нават ва ўласна музычным аддзеле сярод пласцінак нахабна сядзяць плюшавыя малпы. Мастацтва, як бачым, сёння "попытам" не карыстаецца.

Ганна МАСЛЯКОВА.

### Курсы валют на 7 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4280 | 4420 | 2760 | 2864 |
| "Дукат" | 4100 | 4200 | 2600 | 2700 |
| "Прыор" | 4250 | 4300 | 2750 | 2790 |

ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

## "Вертыкальны" тыдзень

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ".

*Пасля абмеркавання ў парламенце антыкрызіснай прэзідэнцкай праграмы і прыняцця ім вядомай пастановы Аляксандр Лукашэнка вырашыў "пайсці ў народ" і наведаў Магілёўшчыну, дзе, у прыватнасці, выказаўся наконт сваіх узаемаадносін з дэпутатамі. Тым часам парламентарыі сабраліся ў аўторак на чарговае пленарнае пасяджэнне.*

Змяненне рэгламенту работы сесіі ўнесла карэктывы і ў прэзідэнцкія планы: у чацвер ён выступіў у Вярхоўным Савеце з прапановамі наконт змяненняў і дапаўненняў у законе аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы. У выніку на Беларусі будзе створана новая вертыкаль выканаўчай улады. Аднак да гэтага дэпутаты паспелі прыняць шэраг важных рашэнняў, таму па напружанасці і багаццю падзей парламенцкі тыдзень можна назваць "вертыкальным".

Хаця прэзідэнт у першыя дні тыдня фізічна не прысутнічаў на сесіі, ягоная асоба працягвала знаходзіцца ў цэнтры ўвагі. У Авальнай зале, на брыфінгах і ў кулуарах Вярхоўнага Савета прадстаўнікі розных зацікаўленых бакоў так ці інакш трактавалі рознагалоссі, узнікшыя паміж Лукашэнкам і парламентам. Дэпутаты, як вядома, часткова падтрымалі ініцыятывы прэзідэнта, аднак не далі яму магчымасці эфектыўна іх рэалізоўваць, прымаючы адпаведныя ўказы. Лейтматывам парламенцкіх прамоў стала перакананасць у тым, што нікому (у тым ліку і Аляксандру Рыгоравічу) не трэба выходзіць па-за межы канстытуцыйнага поля. Такім чынам, эканамічны "карт-бланш" прэзідэнту пасля дэбатаў вакол праграмы ніяк не закрануў прастору заканадаўчых навацый, структурнай перабудовы піраміды ўлады, пакінутай старым кіраўніцтвам пры раптоўным адыходзе ў палітычнае небыццё. Гэткае развіццё падзей, хутчэй за ўсё, выклікала негатыўную рэакцыю ў прэзідэнцкіх пакоях, адсюль і даволі рэзкія па танальнасці выказванні, прагучаўшыя з вуснаў Лукашэнкі ў Шклове. На малой радзіме ён асабліва не клапаціўся аб падборы дыпламатычных фраз і ўвогуле зазначыў, што не збіраецца ісці да дэпутатаў. Два дні прэзідэнт слова трымаў і на сесіі не прысутнічаў. Аднак гэта з'ява была часовай, тым больш тлумачальнай з улікам занятасці іншымі дзяржаўнымі справамі. У Вярхоўным Савеце пастаянна прысутнічалі ягоныя афіцыйныя прадстаўнікі, члены ўраду і адміністрацыі. І ўсё ж у Авальнай зале адчуваўся "градус" супрацьстаяння, адсюль і шэраг рэплік-заўваг наконт сённяшніх і заўтрашніх узаемаадносін двух галін улады. Некаторыя дэпутаты нават выказвалі меркаванні аб уяўнасці канфліктнага дэбюту сваёй апошняй сесіі і залішняй драматызацыі яго ў СМІ. Прынамсі, другі тыдзень работы дэпутацкага корпуса распачаўся менавіта з міратворчых заяў і дэманстрацыі жадання згоды і супрацоўніцтва парламентарыяў з прэзідэнтам і ўрадам. Ніякіх неабдуманых крокаў парламент рабіць не збіраўся. Гэта само па сабе сведчыла пра дастаткова грунтоўны запас дыпламатычнай трываласці і пацвярджалася ходам абмеркавання наступных (за абмеркаваннем антыкрызіснай праграмы) блокаў пытанняў. Аб іх крыху пазней, а пакуль прыгадаем, што праграмай прадугледжваюцца жорсткія тэрміны прыняцця таго або іншага заканадаўчага акта, таму парламентарыі павінны будуць працаваць пад прэсам часу, каб не затрымаць "прэзідэнцкі экспрэс", які ў бліжэйшы час паімчыць з новай хуткасцю.

Між тым парламенцкія слуханні законапраекта "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь" у першым чытанні прайшлі без залішняй экспрэсіўнасці. Дакумент прадставілі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір і старшыня камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык. Чыгір, паведаміўшы, што законапраект абмеркаваны на пасяджэнні калегіі Кабінета Міністраў з удзелам старшынь аблвыканкамаў і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, дэталёва прааналізаваў яго і падкрэсліў: неабходнасць хутчэйшага прыняцця праекта тлумачыцца перш за ўсё тым, што дагэтуль не пацверджаны законам паўнамоцтвы новага ўрада (у дакуменце вызначаны восем напрамкаў дзейнасці Кабінета з прадастаўленнем яму 112 асноўных паўнамоцтваў). І Уладзімір Леўчык выказаўся за прыняцце законапраекта ў першым чытанні, аднак адзначыў: шэраг яго палажэнняў не адпавядае канстытуцыйным нормам. Тлумачыцца такое проста. Пры распрацоўцы за аснову ўзялі стары закон СССР "Аб Савеце Міністраў", прыняты яшчэ ў 1979 годзе. Леўчык палічыў мэтазгодным разгледзець дакумент у другім чытанні пасля законапраекта "Аб прэзідэнце". Дарэчы, гэтую думку падтрымалі многія дэпутаты, якія адзначылі, што для захавання балансу раўнавагі выканаўчай і заканадаўчай улад дакумент увогуле неабходна разглядаць адначасова з законапраектамі "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" і "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь". Галіна Сямдзянава, Анатоль Мардашоў, Віктар Кудравец і іншыя прамоўцы станоўча ацанілі праект, хаця прагучалі і апасенні (Уладзімір Новік, Алег Трусаў): прыняцце яго ў цяперашнім выглядзе паспрыяе пабудове таталітарнай дзяржавы. Але ў першым чытанні праект закона быў прыняты насуперак песімістычным прагнозам. Потым спіс прынятых парламентам заканадаўчых актаў папоўніў закон "Аб грамадскіх аб'яднаннях", які прадставіў намеснік старшыні парламенцкай камісіі па пытаннях галоснасці сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Анатоль Вярцінскі. Трэба сказаць колькі слоў пра Закон "Аб палітычных партыях", прыняты парламентам у сераду, у рэспубліцы цяпер іх зарэгістравана 26. Аднак наперадзе новых партыйных функцыянераў чакае нялёгкае жыццё. Закон пачне дзейнічаць адразу пасля апублікавання, а згодна з яго нормамі, колькасны састаў палітычнай партыі не можа быць меншым за 500 чалавек. Таму пасля перарэгістрацыі, партый на Беларусі, безумоўна, паменшае. Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч і іншыя дэпутаты прапаноўвалі знізіць колькасны цэнз да 200 членаў, але паразумення не знайшлі. Даволі жорсткія тэрміны перарэгістрацыі да таго ж значна паўплываюць на актыўнасць "партыйцаў" пад час выбарчай парламенцкай кампаніі, бо ім давядзецца больш клапаціцца пра пашырэнне сваіх радоў. У другой палове дня дэпутаты прынялі ў першым чытанні законапраект "Аб свабодных эканамічных зонах".

І ўсё ж галоўнай падзеяй тыдня стала выступленне прэзідэнта ў чацвер і абмеркаванне ягоных прапаноў па рэфармаванню мясцовай выканаўчай улады. Прамова Аляксандра Лукашэнкі змешчана ў друку, таму не будзем падрабязна аналізаваць яе прыярытэтныя палажэнні. Асноўны акцэнт быў зроблены на тое, што змяненні і дапаўненні ў заканадаўстве прадугледжваюць першы этап рэфармавання. Звязана гэта, перш за ўсё, з прынцыпамі раздзялення ўлад, якія замацаваны ў канстытуцыі, і ператварэннем парламенцкай рэспублікі ў прэзідэнцкую. Можна сказаць: прававым шляхам завершана рэфармаванне эканамічнага і палітычнага жыцця, дэпутаты пагадзіліся перадаць усю выканаўчую ўладу новай прэзідэнцкай структуры, чым нанеслі сістэме Саветаў рашучы ўрон. Рашэнне прымалася няпроста. У двух словах пра сутнасць прэзідэнцкіх прапаноў. Саветы захоўваюцца толькі на ўзроўні раёна, горада і вобласці і выконваюць прадстаўнічыя функцыі. Саветы ж так званага першаснага ўзроўню (сельскія, пасялковыя, гарадскія раённага падпарадкавання і раённыя ў гарадах) скасоўваюцца, іх замяніць мясцовая адміністрацыя. Будуць "раз'яднаны" пасады старшыні Савета і старшыні выканаўчага камітэта. Прэзідэнцкая вертыкаль (ён прызначае старшынь выканкамаў абласных Саветаў, тыя — старшынь выканкамаў гарадоў і раёнаў, апошнія — адміністрацыю на месцах) па сутнасці возьме на сябе ўсю паўнату ўлады. Такім чынам, непасрэдна насельніцтва не выбірае сваё мясцовае кіраўніцтва. Прэзідэнт палічыў, што падобныя навацыі не толькі дадуць магчымасць праводзіць эфектыўную дзяржаўную палітыку, але і дазволяць пазбавіцца ад некампетэнтных кіраўнікоў абласнога і раённага звяна. Час пакажа. Зазначым, чацвер стаў паваротным днём у постсавецкай гісторыі Беларусі. Парламенцкая згода з прэзідэнтам адкрывае перад Лукашэнкам стаўбавую дарогу для пераўтварэнняў. Якімі яны будуць? У ходзе дыскусіі выказваліся апасенні наконт выбару накірунку шляху. У прыватнасці, Генадзь Карпенка, Уладзімір Грыбанаў і іншыя дэпутаты прад'явілі нямала прэтэнзій як да самых прэзідэнцкіх прапаноў, так і да парадку іх абмеркавання. Аднак дэпутацкая большасць "не пачула" гэтыя перасцярогі. Між тым, сапраўды цяжка не заўважыць пасткі стварэння ўладных паралеляў, якія ўпаўне могуць распачаць высвятленне адносін паміж сабой. Адразу пасля галасавання і слоў удзячнасці прэзідэнта значная частка парламентарыяў шумна пакінула Авальную залу, што прымусіла Зянона Пазьняка заклікаць дэпутатаў вярнуцца на рабочыя месцы — на чарзе стаяў разгляд закона аб нацыянальным архіўным фондзе. "Гіне культура, у жудасным стане нашы архівы", — гэтыя словы лідэра апазіцыі неяк дзіўна гучалі ў эйфарычным рокаце.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Людміла КАХАВЕЦ,
рэдактар
Наталля ВАЛАКІДА.

## "Уорлднэт"

### "ВАЮЮЦЬ" РАЗАМ

*У Румыніі прайшлі ваенныя манеўры.*

Іх удзельнікамі сталі 16 еўрапейскіх дзяржаў, сярод якіх былі Расія і ЗША. На думку арганізатараў вучэнняў, манеўры паказалі, што часы "халоднай вайны" ужо мінулі.

### ЭКС–ПРЭЗІДЭНТ ВЯРТАЕЦЦА

*Экс–прэзідэнт Гаіці мае намер да 15 кастрычніка вярнуцца на Радзіму.*

Паводле слоў былога прэзідэнта, у яго няма больш прычын баяцца вяртання дадому. Шэф гаіцянскай паліцыі

## "Суперчэннэл"

Жозэф Мішэль Франсуа ўцёк ноччу ў Дамініканскую рэспубліку. Менавіта Франсуа нясе адказнасць за ваенны путч на Гаіці, у выніку якога загінула шмат людзей.

### УСЕ ГРАНІЦЫ НАСЦЕЖ

*У Вашынгтоне былі праведзены двухдзённыя перагаворы лідэраў Іарданії і Ізраіля.*

Як вядома, пасля падпісання мірнага пагаднення кіраўнікі дзяржаў два месяцы працавалі над праектам пагаднення па адкрыццю граніц паміж Ізраілем і Іарданіяй. Цяпер яны маюць намер таксама адкрыць канал паміж Мёртвым і Красным морамі.

## "Еўраньюс"

### ТУРНЭ ІМПЕРАТАРА

*Упершыню імператар Японіі прыбыў з афіцыйным візітам у Парыж.*

Франсуа Мітэран сустрэў высокага госця ў аэрапорце з ваеннымі ўшанаваннямі. У час перагавораў была намечана праграма па ўстанаўленню эканамічных сувязей паміж Японіяй і Францыяй. Пасля сустрэчы ў Парыжы імператар адправіўся з візітам у Германію.

### ЗА АДМЕНУ САНКЦЫЙ

*Прэзідэнт Румыніі Іліеску на пасяджэнні Еўрапейскага савета заявіў аб неабходнасці адмены санкцый супраць суседніх дзяржаў*

## "TV-5"

*Сербіі і Босніі, акрамя адмены эмбарга на пастаўкі зброі ў Сербію.*

Іліеску адзначыў таксама, што сума даўгоў Сербіі дасягнула ўжо 7 мільярдаў даляраў.

### У БЕЛЫМ ДОМЕ – ГОСЦЬ З АФРЫКІ

*Прэзідэнт ПАР Нельсан Мандэла – ганаровы госць у Белым доме.*

ПАР стала першай афрыканскай дзяржавай, якая ўстанаўлівае кантакты з ЗША. Клінтан паабяцаў Мандэле палітычнае і эканамічнае супрацоўніцтва.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## БІЗНЕС-КЛАС

### ШМАТ КАНЦЭПЦЫЙ, ДОБРЫХ І РОЗНЫХ

Прэзідэнцкая праграма антыкрызісных мер, нягледзячы на яе выразна лідзіруючае становішча, тым не менш, зусім не з'яўляецца адзінай. Даволі шырокую вядомасць атрымала, у прыватнасці, канцэпцыя, распрацаваная старшынёй асацыяцыі "ЭКОНІнвест" Яўгенам Доўгелем, віцэ-прэзідэнтам Саюза прыдпрымальнікаў Аркадзем Маслаковым і іншымі. Нядаўна яна ізноў атрымала падтрымку дзелавых колаў на нарадзе ў Магілёве, дзе было вырашана направіць яе ў Вярхоўны Савет і ўрад на разгляданне.

**Г.АЛЯКСАНДРАВА.**

### ПАГАНДЛЮЕМ?

Гэтымі днямі пачаў сваю працу самы буйны ў рэспубліцы мінскі кірмаш "Восень-94", які праводзіцца ўжо дзевяты раз.

На ім прадстаўлена больш за 200 прадпрыемстваў і гандлёвых арганізацый з 17 краін. Сваю прадукцыю — адзенне, абутак, мэблю, электроннавылічальную тэхніку, парфуму — дэманструюць удзельнікі з Аўстрыі, Балгарыі, Балтыі, Венгрыі, Германіі, Ізраіля, ЗША, Малдовы, Польшчы, Чэхіі, Італіі, краін СНД. На беларускі рынак упершыню выходзяць індыйскія вытворцы, фірмы з Мальты і Японіі. Удзельнікі кірмаша сустрэнуцца са спецыялістамі АТ "Амкадор", буйнога вытворцы дарожнай і будаўнічай тэхнікі на Беларусі, а таксама разгледзяць за "круглым сталом" з банкірамі філіяла "Уручча" АКБ "Белаграпрамбанка" пытанні аб магчымых банкаўскіх інвестыцыях у эканоміку рэспублікі.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### АУКЦЫЁН АДБУДЗЕЦЦА Ў МІНСКУ, АЛЕ БЕЗ СТАЛІЧНЫХ ЛОТАЎ

Юбілейны, па ліку 20-ы, аўкцыён па прыватызацыі аб'ектаў нерухомасці праводзе ў Мінску 7 кастрычніка Заходняя біржа нерухомасці. Адрозненне яго ад ранейшых у тым, што на гэты раз гарадскія ўлады ўстрымаліся ад выстаўлення на аўкцыённыя таргі аб'ектаў са сталічнай прапіскай, і таму пакупнікам будуць прапанаваны толькі тыя, якія знаходзяцца ў іншых гарадах рэспублікі.

Пералік іх на дзіва шырокі і разнастайны. Так, удзельнікам аўкцыёну будуць прапанаваны камунальная ўласнасць у Мар'інай Горцы, недабудаваны будынак кандытарскага цэха ў Жлобіне, рэстаран "Парнас", магазін "Будматэрыялы" і чайная ў горадзе Горкі, двухпавярховы будынак у Маладзечна. Акрамя таго, на аўкцыённай аснове будуць падбірацца забудоўшчыкі зямельных участкаў у горадзе Мар'іна Горка.

Нараўне з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй, якая ажыццяўляе праект "Малая прыватызацыя ў Беларусі", свае крокі ў прыватызацыі камунальнай уласнасці робяць айчынныя прадпрымальнікі, у ліку якіх і Заходняя біржа нерухомасці. Трэба адзначыць, што пакуль усе 20 праведзеных біржай аўкцыёнаў былі ўдачнымі. Відаць, таму ў цесным кантакце з гэтай структурай працуюць гарадскія ўлады розных населеных пунктаў рэспублікі, у тым ліку і Мінска.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ.**

ДЫЯЛОГІ "ЧЗ"

# Бяда не павінна быць чужой

*8 кастрычніка Беларускаму таварыству інвалідаў па зроку спаўняецца 70 гадоў. Напярэдадні юбілею мы сустрэліся са старшынёй цэнтральнага праўлення гэтай арганізацыі Анатолем Іванавічам Нятылькіным, каб пагаварыць аб тым, якім быў гэты 70-гадовы шлях і чым зараз жыве таварыства.*

*— Скажыце, калі ласка, Анатоль Іванавіч, з чаго пачалася гісторыя стварэння арганізацыі інвалідаў?*

— У 1897 годзе ўрач-акуліст Іван Усцінавіч Здановіч адкрыў у Мінску першае вучылішча для сляпых дзяцей. Да пачатку Першай сусветнай вайны там навучалася больш 20 хлопчыкаў. Сярод іх быў І.Волчэк, які ў 1924 годзе стаў заснавальнікам Беларускага таварыства інвалідаў па зроку.

Разам з усёй краінай арганізацыя жыла тымі этапамі, якія лёс прадвызначыў дзяржаве. Перажывала ўзлёты і падзенні, так здарылася, што станаўленне яе адбывалася ў складаныя паслярэвалюцыйныя гады. І ўсё ж, нягледзячы на цяжкасці, таварыства здолела перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны наладзіць работу 11-ці прадпрыемстваў, на якіх было працаўладкавана больш 500 інвалідаў па зроку. Вайна ўсе гэтыя здабыткі звяла на нуль. Пасля яе давялося зноў адраджаць нашу прамысловасць. І з гэтай задачай удала справіліся. Ужо да 60-х гадоў мы поўнасцю адмовіліся ад датацыі дзяржавы і ўсе пытанні вытворча-гаспадарчай дзейнасці, а таксама сацыяльныя вырашалі за кошт прыбытку, які давалі нашы прадпрыемствы. Нідзе не было такой кароткай чаргі на атрыманне жылля, як у нашым таварыстве. Людзі на працягу 5—8 гадоў атрымлівалі кватэры, мелі работу, выконвалася вялікая сацыяльная праграма.

Ужо напярэдадні перабудовы усім інвалідам па зроку мы дадаткова да пенсіі даплачвалі па 30 рублёў, бясплатна выдавалі сродкі тыфлатэхнікі: тросці, магнітафоны, брайлеўскія прыборы для пісьма, пішучыя машынкі. Больш трох тысяч інвалідаў штогод атрымлівалі бясплатныя пуцёўкі на адпачынак, таварыства аплачвала таксама праезд у абодва канцы...

*— Анатоль Іванавіч, у мяне склалася такое ўражанне, што Вы ўспамінаеце аб тых добрых днях, як аб нечым незваротна пайшоўшым.*

— І ў гэтым ёсць істотная доля праўды. Пачалася перабудова, якая прынесла з сабой крызіс у эканоміцы, разбураную гаспадарку. Інваліды, у тым ліку і па зроку, апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы.

Я ў свой час звяртаўся да тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, спрабаваў данесці да яго нашы беды, гаварыў аб тым, што сляпыя і слабавідушчыя людзі — асобая катэгорыя інвалідаў, што яны маюць патрэбу ў дзяржаўнай дапамозе і абароне. Аднак у адказ пачуў: "Рынак — для ўсіх рынак". Сустракаўся з былым старшынёй парламенцкай камісіі, а цяпер міністрам працы Аляксандрам Сасновым. Ён сказаў, што разумее наша цяжкае становішча, аднак фізічныя магчымасці выкарыстання працы сляпога чалавека вельмі звужаны. Таму лепш даць інваліду пенсію, дастатковую для нармальнага жыцця, і ўсяго. Я ўспрыняў гэту заяву з болем. Дапусцім, такое можна прапанаваць пажылому чалавеку, а як быць тым інвалідам па зроку, якім 20—30 гадоў? Адчапіцца ад іх толькі падачкай, пакінуўшы па-за жыццём грамадства? Карацей, належнай падтрымкі мы не атрымалі, хаця і маем закон аб сацыяльнай абароне інвалідаў.

*— А якую падтрымку, на Ваш погляд, можна было б атрымаць зараз?*

— Перш за ўсё, нам патрэбна работа. Мы маем працоўныя месцы, але іх неабходна захаваць. Сёння ўласнасцю Беларускага таварыства інвалідаў па зроку з'яўляецца 17 прамысловых прадпрыемстваў. У 1990 годзе, напярэдадні крызісу, мы выраблялі таварнай прадукцыі на 100 мільёнаў (ранейшых) рублёў. У пераводзе на сённяшнія цэны гэта сума складае 550 мільярдаў рублёў. Але, на жаль, зараз наша прамысловасць працуе вельмі нерэнтабельна. Аб'ёмы вытворчасці скараціліся ў параўнанні з 1990-м годам на 70—75 працэнтаў. За апошнія паўтара гады страчана каля 2 тысяч рабочых месцаў. Калі так будзе працягвацца і далей, без падтрымкі дзяржавы мы абанкруцімся і нашы прадпрыемствы перастануць існаваць, а на іх зараз працуе больш 4 тысяч інвалідаў па зроку.

З нашага пункту гледжання, неабходна ўстанавіць для прадпрыемстваў таварыства манаполію на пэўныя віды прадукцыі. Напрыклад, на электраўстановачныя вырабы. У агульным аб'ёме вытворчасці яны ў нас займалі каля 70 працэнтаў. Гэта разеткі, выключальнікі, тумблеры, шнуры арміраваныя літой вілкай, штэпсельныя вілкі, патроны і г.д. Мы маглі б гэту прадукцыю вырабляць не толькі для Беларусі, але і для іншых краін СНД. Раней так і было. Аднак рынак ставіць нас у такія ўмовы, пры якіх сляпыя вымушаны канкурыраваць са здаровымі людзьмі і імкнуцца выжыць. Інвалідам па зроку, бадай, гэта не пад сілу. Бо пераналаджванне вытворчасці і абучэнне чалавека без зрокавага аналізатара вырабу новай прадукцыі патрабуе такіх затрат і часу, што пакуль мы гэта засвоім, вытворчасць састарэе.

Напэўна, для нас было б вельмі добра мець заказы Міністэрства абароны. Армія ж існуе, і ёй патрэбны пэўныя вырабы. Мы маглі б рабіць усемагчымыя эмблемы, гузікі, асобныя камплектуючыя для зброі, нават шыць адзенне.

Такое практыкуецца, напрыклад, у Злучаных Штатах Амерыкі. Ніхто не скажа, што гэта не рыначная дзяржава, аднак там на прадпрыемствах, створаных для сляпых, устаноўлена манаполія на вытворчасць пэўнай гамы тавараў. Такія прадпрыемствы выпускаюць спартыўную форму для амерыканскай арміі, разавы посуд.

Нам жа кажуць, што ў нас так нельга, бо мы ідзём да рынка. Хаця вырабы сляпых людзей пасьпяхова канкурыруюць на рынках блізкага замежжа, апошнія ўсё больш звужаюцца, замаруджваюцца абароты сродкаў. Уявіце, у мінулым годзе на пінскім прадпрыемстве час ад закупкі, продажу прадукцыі і атрымання грошай за гэта склаў 308 дзён. Амаль год! Сёння сярэдні абарот нашых сродкаў — 150-160 дзён.

Я ўжо казаў, што ў старыя добрыя часы мы самі вырашалі свае сацыяльныя пытанні. Зараз і гэта сфера пад пагрозай. Мы не можам пабудаваць ні аднаго дома для інвалідаў, не можам утрымліваць нашы бібліятэкі, дамы культуры, клубы, прафесіянальныя калектывы, камерны хор, эстрадна-сімфанічны аркестр. Да верасня мы фінансавалі гэта са сродкаў бюджэту, цяпер жа людзі, якія нясуць культуру інвалідам, засталіся без зарплаты, бо спынена фінансаванне сацыяльнай сферы. Калі падзеі будуць развівацца так і далей, то сляпы чалавек зробіцца сляпым не толькі фізічна, але і духоўна. Перспектыва вельмі сумная.

Здавалася б, Вярхоўным Саветам прыняты закон аб сацыяльнай абароне інвалідаў. Аднак усё ў ім добра на словах. А на справе? Напрыклад, адзін з артыкулаў закона гаворыць, што ўсе прадпрыемствы, незалежна ад форм уласнасці, павінны браніраваць пяць месцаў для працаўладкавання інвалідаў. Але я не ведаю такога факта, каб хтосьці ўзяў на работу сляпога. Закон паўсюдна не выконваецца. Дык ці не лепш было б захаваць у гэтых умовах хаця б тое, што стварылі самі сляпыя. І сродкі, прызначаныя на стварэнне новых рабочых месцаў для інвалідаў, больш разумна было б накіроўваць на захаванне тых працоўных месцаў, якія мы маем сёння, але вымушаны скарачаць.

Двойчы я наведваў новага віцэ-прэм'ера Віктара Ганчара. І мне было прыемна, што Віктар Іосіфавіч разумее нашы праблемы. Ён гатовы нас падтрымаць, але прапанаваў звузіць сферу дапамогі, бо казна пустая і ўсё, зразумела, ахапіць нельга. Я з такой пазіцыяй згадзіўся і адпаведнае пісьмо з прапановамі мы занеслі ў Кабінет Міністраў. Хочацца верыць, што падтрымка будзе аказана. Аднак час ідзе, і мяне ўсё больш турбуе думка: як мы перажывём гэту зіму. Цэны на энерганосьбіты, безумоўна, вырастуць яшчэ. Па іх мы не зможам разлічвацца. Вось і стаім перад дылемай: што рабіць. Можа, увогуле зачыніць дзверы прадпрыемстваў на зіму. Гэта значыць пакінуць людзей без зарплаты. І калі мы спынімся, то не запрацуем ужо ніколі, працоўныя калектывы распадуцца. Я лічу, што да нашай прамысловасці нельга адносіцца як да дзяржаўнай, бо мы вырашаем, перш за ўсё, пытанні дабрабыту невідушчага чалавека. Таму і аплата за электраэнергію, пар, цяпло, гарачую ваду ў нас павінна быць як у бюджэтных арганізацый, каб мы маглі жыць і выжыць.

Скажам, летась тэмпература ў цэхах нашых прадпрыемстваў была 8—14°С. А для сляпога працаўніка яна павінна быць не менш як 18°С, каб не мерзлі рукі, якія з'яўляюцца галоўным органам пачуцця дотыку, інакш — адчуванне зніжаецца і чалавек можа атрымаць сур'ёзную траўму. Але нас не чуюць і дапамагаць не спяшаюцца.

*— Вельмі сумная размова атрымліваецца ў нас з Вамі, Анатоль Іванавіч, напярэдадні свята. Аднак ад праблем нікуды не дзецца, і Вам як старшыні Цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, народнаму дэпутату Беларусі яны бачны асабліва выразна. Як бы, на Ваш погляд, павінны былі скласціся далейшыя адносіны здаровай часткі грамадства з тымі, хто пакутуе ад калецтваў?*

— Я сказаў бы, што калісьці японцы лічыліся блізарукай нацыяй, а зараз у нас палова насельніцтва мае недахопы органаў зроку: У многім гэтаму паспрыяў Чарнобыль. Сёння ў рэспубліцы каля 100 тысяч інвалідаў па зроку І, ІІ, ІІІ груп. Сумняваюся, што лічба будзе змяншацца. Я шмат разоў наведваў заходнія краіны і заўважыў вось што. Там кожны чалавек, пачынаючы ад галавы дзяржавы і заканчваючы простым рабочым, сустракаючы інваліда, думае: а такое ж можа здарыцца і са мной. Адсюль усемагчымая дапамога гэтым няшчасным людзям.

Наш жа здаровы чалавек разважае так: гэта можа быць з кім хочаш, але толькі не са мной.

Я хацеў бы звярнуцца да моцных свету гэтага. Паразважайце так, як заходнія суседзі. Ніхто не застрахаваны ад калецтваў, а калі з кімсьці гэта здарылася і дапамагчы нельга, зірніце на праблему не толькі з пункту гледжання дзяржаўнай палітыкі, але і маралі, і звярніце сваю ўвагу на тых, хто сёння ў ёй мае патрэбу.

**Гутарыла Вольга ШАЎКО.**



Уборкай яблыкаў, буракоў, капусты, бульбы ў прыгарадным саўгасе "Брылёва" пачалі навучальны год навучэнцы Гомельскага вышэйшага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 17. Дзяўчаты-другакурсніцы, будучыя повары і кандытары, працуюць у гэтыя дні ў полі. І кіраўніцтва саўгаса вельмі задаволена: амаль паўтары сотні навучэнцаў абавязаліся сабраць усю гародніну ў гаспадарцы да сярэдзіны кастрычніка.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# Нас чакае "прыбалтыйская зіма"?

*Памятаецца, яшчэ год назад мы з жахам сачылі, як пакутуе лютай зімой ва ўмовах дэфіцыту паліва насельніцтва суседняй Прыбалтыкі. Спадзяваліся: падобная сітуацыя, можа, і абміне нас.*

*Але чым бліжэй падступалі да нашай суверэннай прасторы не ведаючыя межаў і мытняў восеньскія халады, тым відавочней станавілася: цудаў не бывае. Даўгі нашы Расіі за паліва і газ пагрозліва ўзраслі, а расплачвацца — няма чым. Ртутны слупок на тэрмометрах, між тым, паніжаецца ўсё бліжэй да нуля, і, гледзячы на яго, мы з настальгіяй успамінаем, што калісьці гэты час супадаў з пачаткам ацяпляльнага сезона. Што нас чакае цяпер? Ці будзе ў кватэрах цяпло і гарачая вада? Што станецца з прадпрыемствамі, якім няма чым разлічыцца за паліўна-энергетычныя рэсурсы?*

*Пэўныя адказы на гэтыя пытанні дала прэс-канферэнцыя, што адбылася днямі ў рэспубліканскім Доме ўраду. З таго, што гаварылася на ёй, ужо сёння можна скласці дастаткова дакладны прагноз на бліжэйшую будучыню. На жаль, ён маласуцяшальны.*

Будуць расці цэны. Пакуль яны ў нас, насуперак усталяванаму меркаванню — ніжэйшыя. За энерганосьбіты мы плацім менш, чым робяць тэта ва ўсім свеце. І, як паскардзіўся віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў, кіраўніцтву дзяржавы даводзіцца пакуль вырашаць усё тую ж дылему: купляць, да прыкладу, нафту за 80 даляраў і прадаваць яе за 40. Так што выпраўляць ненатуральнасць сітуацыі прыйдзецца шляхам падняцця планкі да ўзроўню сусветнай. Прадпрыемствам і насельніцтву прыйдзецца сур'ёзна паклапаціцца аб рэжыме эканоміі, бо на гэты раз замест заклікаў быць беражлівымі будзе нанесены істотны ўдар па нашых грамадскіх і асабістых кішэнях.

Ці вытрымаюць айчынныя грамадзяне яшчэ больш тугое зацягванне паясоў? Павышэнне платы за энерганосьбіты, здавалася на прэс-канферэнцыі, будзе паэтапным і паступовым, для малазабяспечанай катэгорыі насельніцтва прадугледжваецца больш мяккі характар, чым для астатніх... Шанцы на тое, што яно, гэтае павышэнне, не акажацца прама-такі спусташальным для нашых кашалькоў, занадта малыя.

Будзе паніжацца тэмпература ў службовых і жылых памяшканнях.

Аб раскошы назіраць 23 градусы па Цэльсію нам прыйдзецца забыць. Якой дакладна будзе мінімальная тэмпература ў памяшканнях — на прэс-канферэнцыі не было сказана, але прэзідэнт краіны, які быў тым жа днём у Шклове, паабяцаў, што парламенту давядзецца таксама працаваць пры 12 градусах цяпла; так што, трэба думаць, гэта лічба і стане градусам нашага вымярзання. Затое гарачую ваду тры разы на тыдзень, як вынікала з размовы, улады нам гарантуюць.

Будуць закрывацца прадпрыемствы.

Ужо сёння, як вядома, многія прамысловыя прадпрыемствы не ў стане разлічыцца за пастаўляемы для вытворчых патрэб расійскі прыродны газ. Калі на пачатку года так-сяк яшчэ аплачваліся бягучыя пастаўкі "блакітнага паліва" ў рэспубліку, пры гэтым не пагашаўся мінулагодні доўг у 400 мільярдаў рублёў, то на сёння сума доўгу перавысіла ўжо 700 мільярдаў рублёў. Па гэтай прычыне было адключана каля 120 прадпрыемстваў-даўжнікоў — спажыўцоў газу і 40 — за неплацежаздольнасць па электраэнергіі. Практыка адключэння даўжнікоў ад крыніц цепла- і энергазабеспячэння будзе захоўвацца і надалей. Пры гэтым, у зімовы перыяд санкцыі стануць яшчэ больш жорсткімі. Адным словам, ад прадпрыемстваў патрабуецца своечасовы разлік. Будуць грошы — будуць і паліўны мазут, і газ. Праўда, пытанне ўсё ў тым, дзе браць грошы, калі многія заводы і фабрыкі ў даўгу, як у шаўку?

Словам, практыка апошніх гадоў і асабліва мінулагодняя гісторыя са скалелай Прыбалтыкай пераканалі: бязглуздна чакаць літасці ад прыроды. Да зімы сапраўдны руплівы гаспадар рыхтуецца загадзя. Дарэчы, з пэўных дакладных крыніц стала вядома, што краіны Балтыі, напрыклад, сёлета спаўна разлічыліся з Расіяй за пастаўкі газу, удосталь назапасілі паліўнага мазуту і маразы ім ні па чым. А вось як складуцца абставіны ў нашай рэспубліцы, адказаць пакуль што цяжка. У ходзе прэс-канферэнцыі асобныя адказныя кіраўнікі спрабавалі запэўніць: маўляў, і абсталяванне адрамантавана, і заменена 45 кіламетраў зношаных цепласетак, і ёсць пэўная частка паліўнага мазуту. Але аптымізм-аптымізмам, а холад — не цётка. Зрэшты, віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў заявіў, што да зімы трэба рыхтавацца сур'ёзна, маўляў, "праз гэта прайшла Прыбалтыка". Вось і ўзнікае пытанне: чаму мы павінны таксама рыхтавацца да таго, што перажылі суседзі? Ёсць жа, відаць, і станоўчыя прыклады. Навошта пераймаць горшае? За сем гадоў рэфармавання эканомікі хапіла ўжо эксперыментаў народу ўдосталь.

Ну, а як разлічыцца з даўгамі? Спадар Кокараў не абвергнуў чуткі аб тым, што праблема можа быць вырашана ў пэўнай ступені за кошт чэкаў "Маёмасць". Больш таго, ім было адназначна заяўлена: "За даўгі прыйдзецца разлічвацца маёмасцю. Гэта сусветная практыка".

**Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ".**

ЭКАНОМІКА

# "Суверэнізацыя" па-грабаўску

*Не раз ужо за апошні час стала вабіць мяне ў Грабаў, адну з аддаленых вёсак на Петрыкаўшчыне, дзе выпала пажыць і папрацаваць з дзесятак гадоў таму.*

Міжволі прыгадваў тагачаснага старшыню калгаса Лігорскага. Гаспадарку ён узначаліў, не меўшы яшчэ трыццаці і хутка паправіў справы ў арцелі.

Аднак неўзабаве было прынята рашэнне аб далучэнні "Перамогі" да суседняга калгаса "Зара". Анатоль Лігорскі згадзіўся. Хаця, як паказала жыццё, дарма. Узбуйненая гаспадарка скараціла аб'ёмы вытворчасці прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі.

Прычын таму было шмат. А найперш — псіхалагічная рэакцыя вяскоўцаў на пазбаўленне самастойнасці.

Сімпатызуючы тады і цяпер Лігорскаму, я не без пэўнай прадузятасці ставіўся да яго пераемніка — няхай ужо і ў другім калене...

Мікалай Клімянок "Перамогай" кіруе чатыры гады. Праз год яго старшынёўства калгас зноў падзялілі на два. Такім было жаданне суседзяў.

Па прыездзе мне карцела... адразу пабачыць усё на свае вочы.

Непадалёку ад праўлення зварочваем на вуліцу Маладзёжную. Такая значылася некалі толькі на плане гензабудовы. Цяпер жа тут узвышаецца дванаццаць катэджаў, у якіх жывуць сем'ямі спецыялісты і маладажоны. Дзейнічае садок, пра які тады ўсе марылі.

Сталоўку давялося бачыць адразу пры ўездзе, таму хваліцца ёй старшыню не з рукі.

Побач з лазняй да паўтара гектара пашыраецца сажалка. Некалі яе люстэрка не перавышала 10—15 сотак. Але і тады можна было пагарэзаваць у спякоту ў вадзе ці пасядзець раніцою з вудай на беразе.

Таму як было не пазайздросціць землякам, што хутка будуць мець выдатную магчымасць парыбачыць і сапраўдны пляж?! У кіраўніцтва гаспадаркі ёсць намер сажалку абавязкова зарыбіць. Пра людзей жа клапоцяцца.

Паблізу Дома культуры ёсць яшчэ адна новая вуліца, дзе жывуць дванаццаць сем'яў перасяленцаў з Веткаўшчыны і Нараўляншчыны.

Мяне пераконваць у гасціннасці грабаўцаў не трэба. Жыў сярод іх, ведаю. Таму і не здзівіўся, што менавіта тут узведзены адзін з першых пасёлкаў для чарнобыльскіх выганнікаў.

Сёння гэта своеасаблівы цэнтр вёскі. Кватэры няблага глядзяцца, агароджаны дабротным плотам, а вуліцы скрозь заасфальтаваны.

Ды вось бяда, зямельны ўчастак загадзя не меліяравалі, таму грунтовыя воды падтапляюць паграбы і падвалы. Будаўніцтва фарсіравалася ва ўрон якасці. Большасць дамоў капітальна рамантавалі, на што патрацілі процьму сродкаў. А маглі на іх узвесці нейкі аб'ект, які б прыносіў прыбыткі.

Не менш турбуе Клімянка і само жыхарства перасяленцаў. За некалькі гадоў у асобных кватэрах неаднаразова памяняліся гаспадары. Некаторыя сем'і паддаліся на ўгаворы землякоў і з'ехалі ў іншыя рэгіёны. Нягледзячы, што там горшыя ўмовы для працы.

У канцы пасёлка ўзведзены новы будынак ФАПа. Калі ён уступіць у строй, у былым памяшканні ў канторы калгаса справіць наваселле сельская бібліятэка.

Яшчэ ў канцы 70-х непадалёку ад вёскі распачалі будаўніцтва комплекса на 800 галоў жывёлы. Там "прывязалі" яго прымусова, усё як след не прадумаўшы. Паблізу ж не было ні сенажацяў, ні культурнай пашы.

Як вядзецца, спахапіліся потым. Калі трывогу забіў старшыня, зразумеўшы, што комплекс стане абузай для гаспадаркі.

Але ж і гэта яшчэ не ўсё. Нельга прамаўчаць пра "букет" хібаў, дапушчаных пры будаўніцтве.

Так, трубы каналізацыі палажылі ў мёрзлыя траншэі, з-за чаго яны хутка выйшлі са строю. Не менш напартачылі будаўнікі і ў кацельні. Яна і цяпер не працуе.

Гэтыя ды мноства іншых недаробак ліквідавалі. Увод комплексу дапамог значна аблегчыць працу жывёлаводаў. Перавялі туды пагалоўе з цэнтральнай і бярозаўскай ферм, а людзей сталі падвозіць аўтобусам.

Многае памянялася і на мехдвары пасля таго, як наведваў яго ў апошні раз. Уся каштоўная тэхніка захоўваецца ў боксах. Цалкам абноўлены парк аўтамабіляў.

Не скардзяцца і механізатары. Большасць з іх перасела на энерганасычаныя трактары. Зроблена прыбудова да гаража, дзе абсталяваны душ, парыльня, пакой адпачынку.

Усё гэта — плён старанняў Клімянка, які тады быў на пасадзе галоўнага інжынера. Як бачна, ужо ў той час праявіліся ў яго характары рысы, без якіх немагчыма ўявіць добрага кіраўніка.

Побач з мехдваром размешчана новая крытая пілярама. Ёсць сталярны цэх з наборам розных станкоў. У асеннезімовы час у ім плануецца заняць групу свабодных механізатараў і шафёраў. Сталярка спатрэбіцца як для сябе, так і для бартэрнага абмену.

Што датычыць падзелу калгаса, то на думку старшыні, такі крок апраўданы. Злучэнне гаспадарак было акцыяй нелагічнай і нямэтазгоднай. Сэнс у ёй ёсць тады, калі слабейшая далучаецца да мацнейшай.

"Перамога" ж ні ў чым пераваг над "Зарою" не мела. Усё было, можа, наадварот.

Вынікі "суверэнізацыі" гавораць самі за сябе.

Летась на круг сабрана звыш 36 цэнтнераў збожжа і па 10 цэнтнераў грэчкі. Бульба дала з гектара па 196 цэнтнераў клубняў. Гэта лепшы паказчык у раёне. Нарыхтавалі каля 1000 тон сена, што больш, чым назапашвалі да раз'яднання. Рэалізацыйная вага галавы жывёлы склала 490 кілаграмаў. Атрымана было шэсць мільёнаў рублёў прыбытку. Дасягнута самая высокая за апошнія гады рэнтабельнасць вытворчасці — 36 працэнтаў.

Сёння такія паказчыкі, зразумела, не задавальняюць. Ды на лепшыя патрэбны час. У буйной гаспадарцы склалася свая спецыялізацыя, якой быў падпарадкаваны ўвесь севазварот. Неабходна фактычна нанова стварыць мікраструктуру вытворчасці, якая б працавала зладжана і эфектыўна.

Асаблівай увагі патрабуе жывёлагадоўля. Разумеючы часовасць цэнавых перакосаў, на скарачэнне пагалоўя не пайшлі. Упэўнены, што сёлета на тым выйграюць.

Мікалай Іванавіч не ўтрымаўся, каб не назваць імёны лепшых працаўнікоў. Гэта механізатары Дзянісаў, Сергіенка, Варванскі, Шашкоў, вадзіцелі Кебец, Базарны, Макавік, жывёлаводы Маскальчук, Ранько, Козел, Сергіенка. Прыемна было пачуць сярод іх знаёмыя прозвішчы тых, каго даўно ведаю і паважаю. Гэта іх руплівай працай мацавалася і мацуецца ў неспрыяльным бягучым годзе вытворчая база калгаса, дабрабыт усіх вясковых сем'яў.

Канешне, усё ў значнай ступені залежыць ад аграрнай палітыкі. Апошняя ж, як і раней, далёка не заўсёды стымулюе вытворцу.

Але лёгкага жыцця з набыццём самастойнасці ў "Перамозе" не чакалі. Таму і не разгубіліся ў пераходны перыяд да рынку. Дасягнутыя вынікі красамоўна гэта пацвярджаюць.

Не меншых поспехаў за некалькі гадоў існавання на Петрыкаўшчыне дабіліся таксама маладыя калгасы: "Зара" і "Міхедавічы" — суседзі грабаўчан, "Прагрэс", саўгас імя Ульянава. Як ні мяркуйце, але гэтых прыкладаў дастаткова, каб аспрэчыць фатальную залежнасць сельскагаспадарчай вытворчасці ад разрыву партнёрскіх сувязей. Выпадковасцю або шанцаваннем вытлумачваць іх будзе наіўна таксама.

Застаецца апошняе: спаўна прызнаць ролю ў дасягненні гэтых вынікаў маладых кіраўнікоў і мэтанакіраванасці ў працы падначаленых ім калектываў...

Ужо вечарам, у кабіне машыны я азірнуўся на вёску. Яна патанула ў разводдзі агнёў, якога ніколі не ведала. У памяці міжволі, ўсплылі некалі напісаныя радкі:

*Вільнула дарога*
*направа —*
*Не бачу з-за лесу сяла...*
*Аднавяскоўцы,*
*дабра вам —*
*У пару і дажджу, і цяпла...*

**А.ЛІСІЦКІ,**

**Петрыкаўскі раён.**

КУР'ЕР "ЧЗ"

*Тым, хто збіраецца паехаць у Польшчу, будзе цікава даведацца, што там уведзены ў абарот новыя банкноты.*

Купюры вартасцю ад пяцідзесяці тысяч злотых і вышэй цяпер забяспечаны дадатковай абаронай у выглядзе палоскі з фольгі ўнутры банкноты. Ёсць і знешняе адрозненне ад старых грошай: на правым баку купюры намінал яе надрукаваны ў левым ніжнім вуглу чырвоным колерам. З 1 кастрычніка Польшча поўнасцю пераходзіць на гэтыя новыя грашовыя знакі.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

### "Бронза" ад Бахуса

*Лідэрам сярод дзяржаў СНД па вытворчасці алкагольных напіткаў у першым паўгоддзі бягучага года стала Арменія, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года аб'ём яе прадукцыі павялічыўся да 135 працэнтаў. Другое месца па дадзенаму паказчыку займае Туркменістан — 116 працэнтаў. Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы — 109 працэнтаў.*

Найменшы, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, аб'ём алкагольных напіткаў выраблены на Украіне — 50 працэнтаў.

### Плюс дзіцячыя калготкі

*Дэфіцытныя цяпер дзіцячыя калготкі ўзяліся выпускаць магілёўскія хімікі.*

У аб'яднанні "Хімвалакно" створаны спецыяльны ўчастак, дзе асвоена вытворчасць гэтага тавару. Вязальныя машыны тут пакуль працуюць у дзве змены, але з павелічэннем попыту калектыў здольны нарасціць вытворчасць. Ужо ў кастрычніку гэтага года новая прадукцыя, прызначаная для школьнікаў малодшых і сярэдніх класаў, паступіць у магазіны. Вырабляюцца калготкі з бавоўны з дабаўленнем поліэфірнага валакна ўласнай вытворчасці.

**БЕЛІНФАРМ.**

### "Пагоня" ў гербе Гродзеншчыны?

*Навукова-практычная канферэнцыя "Традыцыі выкарыстання геральдыкі ў мясцовым самакіраванні Гродзеншчыны" адбылася ў абласным цэнтры.*

У размове за "круглым сталом" прынялі ўдзел вядомыя беларускія навукоўцы: прафесар А.П.Грыцкевіч, гісторык А.А.Трусаў, даследчык геральдыкі А.К.Цітоў і іншыя. Вырашана распрацаваць герб Гродзеншчыны з адлюстраваннем выявы "Пагоні" (як узнікшай у Навагрудку), Каложскай царквы і сімвалаў некаторых гарадоў Прынямоння.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ**

### Доследная партыя

*Першая доследная партыя высокаэнергетычных плёначных кандэнсатараў выпушчана на заводзе "Ветразь" у Бягомлі. Выпуск гэтай прадукцыі наладжаны ўпершыню ў рэспубліцы з дапамогай спецыялістаў Віцебскага завода радыёдэталей.*

У далейшым ставіцца задача забяспечыць высакаёмістымі плёначнымі кандэнсатарамі электратэхнічныя і тэлерадыёзаводы Беларусі. Але пакуль што попыт на іх значна перавышае мажлівасці "Ветразя".

**Уладзімір МІХНО.**

## ПАНІХІДА ПА ЗАБІТЫХ

*4 кастрычніка ў Мінскім Свята–Пятра–Паўлаўскім саборы па ініцыятыве партыі Славянскі сабор "Белая Русь" прайшла паніхіда па нявінна забітых у час крывавых падзей у Маскве восенню мінулага года.*

Як паведаміў кіраўнік прэс-службы Славянскага сабора "Белая Русь" Уладзімір Майсеенка, партыя таксама звярнулася да Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі з прапановай дапамагчы матэрыяльна сем'ям загінуўшых.

## У ГОНАР БЕЛАРУСАЎ

*На алеі Праведнікаў у Іерусаліме высаджаны хлебныя дрэвы ў гонар дзвюх сялянак вёскі Пятніцкае Шумілінскага раёна Аляксандры Голікавай і Яўгеніі Куцэнка.*

Гэтага гонару і звання "Праведнік народаў свету" яны ўдастоены за выратаванне жыцця яўрэйскага дзіцяці ў гады Другой сусветнай вайны. Віцебскія даследчыкі Міхаіл Рыўкін і Аркадзь Шульман знайшлі шэраг такіх людзей у Беларусі, у гонар якіх будуць шумець хлебныя дрэвы на алеі Праведнікаў.

**БЕЛІНФАРМ.**




## З КІРМАШУ...

*Чарговы рэспубліканскі кніжны кірмаш адбыўся ў Віцебску. На ім прысутнічалі прадстаўнікі кніжнага гандлю, бібліятэк, выдавецтваў, журналісты.*

Паводле слоў міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь С.А.Нічыпаровіча, які выступіў з уступным словам, мэта кірмашу — пашырыць кнігаабмен на тэрыторыі рэспублікі. У гэтай галіне апошнім часам накапілася багата праблем, вырашыць якія можна толькі разам.

## ...НА КІРМАШ

*Восень — пара кірмашоў. Неўзабаве на Віцебшчыне адчыняцца кірмашы па продажы сельскагаспадарчай прадукцыі. У Віцебску, Оршы, Полацку, Наваполацку, Новалукомлі будуць прадаваць садавіну, агародніну, іншыя сельгаставары, завезеныя з сельскіх раёнаў, замацаваных за гэтымі гарадамі.*

А ў Шуміліне, Гарадку, Дуброўне, Талачыне, Ушачах, Чашніках і Верхнядзвінску гарадскія гандлёвыя арганізацыі наладзяць кірмаш па продажы прамысловых тавараў. Для правядзення восеньскіх кірмашоў у вобласці створаны спецыяльны арганізацыйны камітэт.

**Уладзімір МІХНО.**

## БЫК У ГАРАДСКОЙ КВАТЭРЫ

*Цэны на каўбасу і мяса цяпер "кусаюцца", а есці хочацца. Жыхар Маладзечна вырашыў гэтую праблему па-свойму.*

Ён украў за горадам бычка, які пасвіўся на прывязі, прывёў яго дамоў, у гарадскую кватэру. Суседзі, устрывожаныя гучным ровам, выклікалі міліцыю, але было позна — гаспадар кватэры ўжо здымаў з бычка скуру.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Небяспечны бізнес

***Дваццаціаднагадовы Раман Здановіч, жыхар горада Ліда, у той дзень упершыню прыехаў у Слонім. Выпадкова трапіў на базар, дзе адразу і звярнуў увагу на групу маладых хлопцаў, якія стаялі ў адным з гандлёвых радоў з таблічкай на прылаўку: "Куплю медзь". Звярнуў увагу, бо сам займаўся купляй–продажам меднага лому. Нідзе не працуючы, трэба на нешта жыць.***

Раман падышоў да іх, пацікавіўся ці могуць яны прадаць медзь. Незнаёмцы адказалі, што могуць і прадаць, і купіць.

Так у іх завязаліся дзелавыя адносіны. У Рамана Здановіча дома захоўвалася адна тона меднага лому. Навяўленыя калегі па бізнесу згадзіліся купіць усю медзь па цане адзін даляр за кілаграм. Госць пакінуў ім свой лідскі адрас, хаця толькі ведаў, што аднаго завуць Сяргей, а другога — Мікалай. Вось і ўсе звесткі пра новых знаёмых, якія былі вядомы да грабяжу. Але пасля першай сустрэчы былі і іншыя. Раман спрабаваў нават купіць у Сяргея аўтамашыну, але не мог дагаварыцца аб цане.

Між тым, лідскага бізнесмена не насцярожыла і тая акалічнасць, што Сяргей толькі абяцаў штосьці зрабіць, але ніколі нічога не выконваў.

У той красавіцкі вечар Рамана дома не было. У хаце знаходзіліся толькі брат Алег са сваім знаёмым з суседняй вёскі. Да дома на дзвюх аўтамашынах пад'ехалі слонімскія калегі. Яны сказалі, што дамовіліся з Раманам аб тым, што прыедуць і купяць у яго медзь. Алег паказаў пакупнікам месца, дзе захоўваўся тавар. Апошнія адразу пачалі яго ўзважваць і грузіць у прычэп аўтамашыны. Зразумеўшы, што ніхто не збіраецца плаціць, гаспадары прапанавалі гасцям паказаць грошы, якімі яны збіраюцца разлічвацца. Адзін з пакупнікоў адказаў, што зараз пакажа валюту, і знік за дзвярыма салона аўтамашыны.

Раптам пачуўся яго грозны голас: "Усім у хлеў! Стаць каля сцяны!" Прадаўцы спрабавалі абурыцца, але адразу супакоіліся. На іх быў накіраваны ствол кулямёта Дегцярова. Непаслухацца было нельга.

Так і прастаялі каля сцяны хлява, пакуль грабежнікі не загрузілі ў прычэп усю медзь і не паехалі. Праўда, скрыцца ім не ўдалося. Злачынцы не ўлічылі, што іх ведалі ў твар. Пры гэтым работнікам Слонімскага ГРАУС было вядома, хто ў горадзе і раёне займаецца скупкай і перапродажам медзі.

Пакупнікі-злачынцы былі затрыманы і апазнаны. У аднаго з іх пры хатнім вобыску канфіскавалі кулямёт Дзегцярова, кулямётную стужку і 57 баявых патронаў да яго.

За разбойны напад з прымяненнем кулямёта Віталь З. і Мікалай К. народным судом горада Ліды асуджаны кожны на 5 гадоў пазбаўлення волі. Пры вызначэнні меры пакарання судом улічана, што Віталь З. раней не судзімы, але ў сваім доме захоўваў кулямёт. Захоўванне зброі з'яўляецца асобным злачынствам. Мікалай Б. раней тройчы прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. Пры гэтым адзін раз за воінскія злачынствы і двойчы за хуліганства.

Між тым, асуджаныя не згадзіліся з прыгаворам суда і абскардзілі яго. Віталь З. успомніў, што ў яго дома засталіся двое малалетніх дзяцей. У Мікалая К. — васьмігадовы сын і хворая маці, якой патрэбны догляд сына і матэрыяльная дапамога. Аднак прыгавор народнага суда Ліды пакінуты без змен.

Сяргей С. не захацеў адбываць пакаранне з саўдзельнікамі. Ён пакінуў сям'ю і скрыўся ў невядомым напрамку. Цяпер ён арыштаваны ў горадзе Санкт-Пецярбургу Расійскай Федэрацыі за новыя злачынствы. Так што доўга скрывацца не давялося.

**Лявон ГРАНКОЎСКІ, пракурор следчага аддзела**



Два верасьнёўскія дні ў Мінску праходзілі гастролі тэатра "На Руры" з германскага горада Мюльхайма. Неразбалаванаму сталічнаму гледачу на гастролі заезджых артыстаў, асабліва з далёкага замежжа, былі прапанаваны для прагляду тры спектаклі — Максіма Горкага "На дне", Бертольта Брэхта "Выключэнне з правіла" і Вільяма Шэкспіра "Макбет". Гэта культурная акцыя арганізавана Міністэрствам культуры і друку, нямецкім культурным цэнтрам імя Гётэ і Дзяржаўным акадэмічным рускім драмтэатрам імя Горкага.

**Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА.**

ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

## 10–16 кастрычніка

### ШАЛІ

Пасля 10-га магчымы сваркі і канфліктныя сітуацыі. Звярніце ўвагу на вашу нервовую сістэму.

Займіцеся бізнесам у сярэдзіне тыдня. Удача ва ўсіх вашых пачынаннях.

Не палохайцеся новых знаёмстваў у выхадныя. Больш часу правядзіце з сябрамі.

### СКАРПІЁН

Пастарайцеся рэалізаваць раней пачатыя планы. Будзьце пяшчотнымі з каханым. Стабілізуецца становішча ў сям'і.

Не слухайце ніякіх плётак на гэтым тыдні. Давярайце толькі сваёй інтуіцыі.

### СТРАЛЕЦ

Пазбягайце канфліктаў на працы ў панядзелак. Сур'ёзна абдумвайце ўсе вашы дзеянні ў грашовай сферы, каб у далейшым не шкадаваць.

Стрымлівайце свае эмоцыі ў суботу, каб не пасварыцца з каханым. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

### КАЗЯРОГ

У першай палове тыдня магчымы матэрыяльны прыбытак. Будзьце стрыманымі: Марс правакуе вас на канфлікты.

Захоўвайце асцярожнасць 11-га і 13-га. Займіцеся спортам, каб сур'ёзна не захварэць. Стабілізуецца становішча ў асабістым жыцці.

### ВАДАЛЕЙ

Удачныя дні: 11-га і 13-га. Спрыяльны час для разумовай дзейнасці, бізнесу.

12-га, 15-га і 16-га асцерагайцеся ўсялякіх непаразуменняў.

### РЫБЫ

На гэтым тыдні магчымы непаразуменні з боку супрацоўнікаў. Пастарайцеся высветліць усе недарэчнасці, каб у далейшым не шкадаваць.

Устрымайцеся ад усялякіх забаў.

16-га вы даможацеся жаданага. У вас будзе шмат энергіі для вырашэння важных праблем.

### АВЕН

12-га і 16-га не лепшы час для камерцыйных аперацый. Перачакайце! Больш часу правядзіце ў сям'і. Займіцеся паляпшэннем быту.

Пазбягайце высвятлення адносін на працы.

### ЦЯЛЕЦ

З 10-га — перамены ў фінансавай сферы ў лепшы бок. Асцерагайцеся сур'ёзных захворванняў. Стрымлівайце свае эмоцыі ў сям'і і на працы.

У вас будзе шмат энергіі для пачатку новых спраў у канцы тыдня.

### БЛІЗНЯТЫ

Магчыма абвастрэнне нейкай даўняй хваробы ў людзей сярэдняга і пажылога ўзросту.

Абдумвайце кожны свой крок на гэтым тыдні.

Дні, спрыяльныя для новых пачынанняў: 11-га і 13-га.

### РАК

Займіцеся спортам на пачатку тыдня. Удачным будзе ўсялякі бізнес. Добрыя перамены ў прафесійнай сферы.

Палепшыцца становішча ў інтымным жыцці 14-га.

Пастарайцеся не нервавацца 12-га.

### ЛЕЎ

Асабліва напружаныя дні 12-га і 14-га. Займіцеся бізнесам.

Пастарайцеся не канфліктаваць з супрацоўнікамі. Будзьце асцярожнымі ў дарозе. Верагоднасць траўм.

### ДЗЕВА

Устрымайцеся ад усялякіх паездак да канца тыдня.

Удачныя дні: 11-га і 13-га. Пазбягайце канфліктных сітуацый у асабістым жыцці.

ПОСТАЦІ

# Абавязак памяці

***Прызванне і лёс паэта — жыць у трох вымярэннях: то з лёгкасцю ранішняй птушкі залятаць у заўтрашні дзень, то з цяжкасцю першапраходца пераадольваць бар'еры мінулых гадоў, то азірацца вакол сябе сённяшняга, поўнага сіл і спадзяванняў... Воля паэта — пачуць у цяперашнім і былым жывое сэрца свету, уплесці ягонае гучанне ў свой голас і перадаць яго будучыні. Кожны сапраўдны паэт, нават гэткі незалежны ад славалюбных летуценняў, якім быў Яўген Крупенька, неміnуча разважае аб перажытым і пакутлівай патрэбнасці адчуваць побач плячо аднадумцы, роднасную душу.***

У нас, паплечнікаў паэта, няма ні магчымасцей, ні права не адказаць яму ўзаемнасцю. Затое ёсць шчаслівая магчымасць убачыць ягоныя паэтычныя творы вачамі сучаснага чалавека.

Успамінаецца асабістае, незабыўнае...

Было гэта ў Маскве — даўнім залацістым лістападам, калі ў Доме Герцэна, на Цвярскім бульвары, мы, студэнты-першакурснікі, праводзілі традыцыйны літінстытуцкі вечар знаёмстваў. Кожны чытаў свае вершы. Добра запомніліся выступленні зусім маладых М.Рубцова, Ю.Кузняцова, Б.Прымерава, Л.Кацюкова, С.Чухіна...

І вось, пасля гучных апладысментаў, аб'яўляюць чарговага паэта: "Яўген Крупенька. Семінар Сяргея Смірнова".

На сцэну выйшаў юнак, чымсьці вельмі знаёмы, хоць, здаецца, я з ім ніколі не сустракаўся — хіба што бачыў у рэдакцыі "Чырвонай змены" на пасяджэнні літаб'яднання "Крыніцы". Чаму знаёмы? Таму, напэўна, што выйшаў ён зусім па-свойску, нават трохі па-вясковаму ніякавата, у беларускай вышыванцы, зычліва акінуў залу блакітным позіркам жвавых вачэй, страсянуў светлым чубам і пачаў чытаць:

*Нізкім стаў мне даўно,*
*што здаваўся высокім, парог,*
*ды і хата, як маці мая,*
*пастарэла.*
*На кляновым стале, на*
*бялюткім абрусе, пірог,*
*нібы сонца, ляжыць, —*
*ад яго на зямлі пасвятлела.*
*Сонца ў лістах бяроз, на*
*мурожнай у росах траве,*
*жаўруковаю песняй злятае*
*на колас жытнёвы.*
*А ў матулінам сэрцы*
*найвялікшае сонца жыве,*
*найвялікшае сонца — мая*
*беларуская мова!*

У зале стала надзвычай ціха — здаецца, пабольшала сонца, блакіту, радасці, дабрыні. А галоўнае — усе мы, студэнты-пачаткоўцы, віншавалі адзін аднаго і, перш-наперш, маладога беларуса Жэню Крупеньку з "пасвячэннем у паэты". Мне ж было прыемна ўдвая: зямляк, як і я — учарашні воін... Тады ж мы па-сапраўднаму і пазнаёміліся.

З першых жа вершаў Я.Крупенькі мяне, ды і не толькі аднаго мяне, асабліва ўсхвалявалі тыя, дзе аўтар пераносіць нас у яго родныя мясціны, паказвае краявіды, якія, гаворачы мовай жывапісцаў, паслужылі яму "натурай". Уменне непасрэдна ўзнавіць у памяці прыроду, партрэты сваіх землякоў — аратых і воінаў, людзей узнёслых і працавітых — адна з асноўных якасцей гарманічнага таленту, якім з'яўляецца паэтычны талент Яўгена Крупенькі. Вось як ён пісаў тады ў адной са сваіх ранніх паэм: "Я вас прашу: на Шклоўшчыну прыедзьце, да нас хоць на хвіліну завітайце, на выбар — у любую хату заходзьце і не бойцеся сабак. Іх не трымаюць землякі і нават дзвярэй не замыкаюць за сабой..."

Невыпадкова, думаецца, першы паэтычны зборнік Яўг.Крупенькі "Салаўі" адкрываўся такім чыстым і па-юнацку светлым вершам:

*Саматканыя, з белага кужалю,*
*пабялёныя ля ракі,*
*вышываныя пеўні кружацца —*
*паглядзіце на ручнікі!*
*Пеўні, пеўні —*
*край мой спеўны!*
*Дарагія землякі,*
*дарагія ручнікі!..*

Колькі даводзілася сустракаць вершаваных спроб, дзе аўтары імкнуцца тымі ці іншымі прыгожымі словамі ўвасобіць і перадаць гэту вечную дыялектыку жыцця... Але які дакладны і выразны вобраз знаходзіць Я.Крупенька! Здаецца, сама прырода гаворыць вуснамі паэта, падказвае сродкі для выказвання. І — ніякага насілля над словам. Яно натуральна кладзецца ў радок, працуе па вышэйшых законах творчасці. Такая свабода і ўпэўненасць ёсць сапраўднае майстэрства. Мяркую, што для Я.Крупенькі паспрыяла менавіта вучоба ў Маскве ў выдатных паэтаў. Санет і трыялет, актава і рандо, верлібр і гекзаметр — усе класічныя і сучасныя формы верша, пры наяўнасці багатага зместу, ён арганічна выкарыстоўвае ў кожнай наступнай кнізе лірыкі.

Дарэчы, у нататках "З майго жыццяпісу" Я.Крупенька піша: "Сустракаючыся з чытачамі, людзьмі самых розных узростаў і прафесій, даволі часта мне даводзіцца адказваць на адно і тое пытанне: калі зрабіўся паэтам. І на яго я адказваю вельмі проста: "Спачатку нараджаецца чалавек, а потым паэт".

Бацька вельмі хацеў дзяцей, вельмі перажываў, калі памерлі першынцы, і на маё з'яўленне на свет ён глядзеў як на самую вялікую надзею ў сваім жыцці. Вядома, ён не менш радаваўся, калі маці нарадзіла яшчэ і дзвюх сясцёр — Таісу і Паліну, але ўсё ж мяне, як я памятаю, ён любіў асабліва моцна. І калі ў грозным сорак першым з аднавяскоўцамі пакідаў парог роднай хаты, ён доўга трымаў мяне на руках, туліў да сябе, гладзіў па галаве, цалаваў і даў апошні наказ маці: "Глядзі дзяцей, беражы Жэню".

Бацька з вайны не вярнуўся... За вайну будучаму паэту і яго маленькім сястрычкам давялося перажыць і голад, і холад, не раз глядзець смерці ў вочы...

Нялёгкім было і пасляваеннае жыццё. У сярэднюю школу падлетку Жэню трэба было хадзіць за добрых пяць кіламетраў. Па марозе і бездарожжы. У школе была невялічкая бібліятэка, і ён за час вучобы перачытаў усе кнігі, што былі ў ёй. І, вядома, сам пачаў пісаць у рыфму. Але друкавацца пачаў не з вершаў, а з баек. Першую байку "Два працадні" ён надрукаваў у раённай газеце. Нічога не выдумляючы, пачатковец узяў канкрэтны факт: жонка калгаснага рахункавода ніводнага дня не выходзіла на працу, а яе муж ёй прыпісваў нароўні з іншымі ўдовамі-салдаткамі працадні. Паэт толькі замяніў імя той "працаўніцы", але яна адразу пазнала сябе ў яго творы. Яна ж была і першым крытыкам юнага байкара: ён атрымаў ад яе па плячах чапялой. За баявы жанр і крытыка баявая!

З таго часу Яўген Крупенька яшчэ мацней палюбіў гумар і сатыру і крытыкі пасля такога "хрышчэння" ўжо не баяўся. Больш сур'ёзна ён пачаў працаваць у паэзіі пасля заканчэння школы, калі стаў супрацоўнікам раённай газеты, пайшоўшы на свой хлеб. Паступіць ва універсітэт не давялося: не прайшоў па конкурсу. Такі ж лёс напаткаў і яго сябра — цяпер вядомага беларускага пісьменніка Янку Сіпакова. Яны, два раённыя паэты, здымалі невялічкі пакойчык, пехатой пабывалі ва ўсіх калгасах Шклоўшчыны, пісалі нататкі, рэпартажы, нарысы, па чарзе насілі адзіны плашч... А самае галоўнае — пісалі і друкавалі ў сваёй "раёнцы" вершы. Былі ўдзельнікамі нарады маладых пісьменнікаў рэспублікі, на якой пашчасціла не толькі бачыць і слухаць Якуба Коласа, а нават сфатаграфавацца з ім. Неўзабаве Яўген сустрэў у Магілёве свайго земляка — яго вёска кіламетры за чатыры, праз лес — цудоўнага паэта і чалавека Сцяпана Гаўрусёва, які, упершыню прачытаўшы Яўгенавы вершы, сказаў, што яны вартыя друкавання ў рэспубліканскай прэсе, узяў іх з сабой, і неўзабаве яны былі змешчаны ў "Чырвонай змене". З таго часу Я.Крупенька пачаў рэгулярна друкавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Знаёмства з новымі, асабліва апошнімі, вершамі паэта пераконвае, што нялёгкі, але непазбежна-ўпэўнены шлях да сэрцаў чытачоў у яго шырыўся, адкрываліся перад ім новыя творчыя далягляды. Бо ягонае крэда — заўсёды гаварыць людзям праўду, заклікаць іх да гуманнасці і дабраты, і яны найбольш поўна перадаюць думку А.Блока: калі табе ёсць што сказаць — скажы і не хлусі, калі няма чаго сказаць — маўчы!..

*Я ведаю: не за гарамі час, калі*
*апошні раз ступлю я па раллі,*
*і кінутае мною зерне*
*дасць усходы,*
*што зашумяць даспелай*
*збажынай.*
*І хоць ніколі не сустрэну свой*
*я шчодры жнівень важкі,*
*умалотны,*
*прапахлы сонцам, лівінямі*
*і потам, —*
*шчаслівы буду, што*
*нашчадак мой*
*будзе ісці за плугам баразной*
*і будзе на стале*
*надзённым хлеб заўсёды...*

Гэтым самым Я.Крупенька як бы пацвярджае, што ён — лірык, які ўдала спалучае тонкія пачуцці з глыбокім роздумам.

Палкасць і перакананасць у праваце сваіх поглядаў на з'явы і падзеі — неад'емная частка паэтавай душы, яго побыту і працы. Вядома ж, гэтымі рысамі надзелена і яго паэзія. Ён, як правіла, адгукаецца на ўсё, што закранае сэрца. І таму ў яго лірыцы, побач са спавядальнымі вершамі на вечныя тэмы, — надзённыя, публіцыстычныя строфы. Шчырасць, грамадзянскі тэмперамент спалучаны ў Я.Крупенькі з душэўнай відушчасцю, вострай рэакцыяй на самае малое праяўленне фальшу. Дакор паэта і яго душэўная трывога часцяком звернуты да самога сябе:

*З трывогай у сэрцы,*
*нямоўкнучым болем*
*з гадамі сябе дакараю*
*ўсё болей.*
*На сцежках якіх у*
*жыццёвых турботах*
*куды пагубляў да цябе*
*я пяшчоту?..*

Увогуле ў сваіх вершах Я.Крупенька не прыхарошвае сябе, не лепшы, чым ён ёсць. Гэта гранічная шчырасць і надае яго творам душэўную і духоўную энергію.

Тэма Маці — адна з самых запаветных у паэзіі. Тэма, якая вымагае самай бездакорнай дакладнасці і прастаты слова. І яны даюцца паэту натуральна і нязмушана: "Так, як маці, ніхто не ўмее на свеце немаўлят сваіх песціць, калыханку спяваць. Так, як маці, ніхто не ўмее прывеціць і ў дарогу праводзіць, з дарогі чакаць...".

Мастацкая прастата — сёння звыклы сінонім для азначэння пісьменніка-рэаліста. У вершах і паэмах Я.Крупенькі рэальнае жыццё не цураецца быту, дзе ён заўсёды акрылены жывымі чалавечымі пачуццямі.

*Не веру, што студзень*
*на вуліцы сцюжыць,*
*калі ты з марозу прыйшла,*
*нібы ружа...*
*Ты не кажы, што, маўляў,*
*гэта казка,*
*а паглядзі на сябе, калі ласка!*
*І не пытайся ў сябе ты самой:*
*чаму расцвіла ты — як*
*ружа зімой...*

Каханне — крынічна-гаючае слова ў лірычным свеце паэта. Яго натхняльная сіла: даверыцца і даверыць, абараніць і знайсці падтрымку, прайсці побач пад снегам, па бездарожжы, па апалым лісці... А здараецца і гэтак, што каханне, народжанае ў выпрабавальны час, праверанае і загартаванае, у самыя бязвоблачныя дні раптам пакідае цябе. Але не памірае вера ў высакароднасць пачуцця: "...дні кружаць, ляцяць пад ногі, бягуць чарадой; ды толькі трывогі светлае я не згубіў, — кожная, як апраўданне: веру яшчэ не згубіў у прамяністае ранне!"

Тэма дружбы і сяброўства займае ў творчасці Я.Крупенькі значнае месца, і не толькі па колькасці прысвечаных ім радкоў. Кожнаму чалавеку, лічыць паэт, патрэбен духоўны паплечнік, прысутнасць якога павінна адчувацца пастаянна.

У ягоным свеце сяброў не забываюць, без поклічу прыходзяць на дапамогу, даруюць слабасці і знячэўныя крыўды, захоўваюць вернасць і, нават, калі жыццёвыя пуцявіны разводзяць іх, былое братэрства застаецца свяшчэнным: "Я грэшны і святы. Я каюся і плачу... я ўсё раблю, што толькі захачу, за кожную памылку і няўдачу заўсёды вельмі дорага плачу. Я — хлебароб, я — цесля. Я многае зрабіць хачу пасцець. Я — моцны і бяссільны. Крочу з песняй, з якой мяне разлучыць толькі смерць".

Ёсць у жыцці чалавека светлыя, урачыстыя святы і ёсць турботліва-маркотныя дні. Вядома, пра святы лягчэй пісаць, чым пра будні. А ўсё ж думаецца, што новая, пасмяротная кніга вершаў Яўгена Крупенькі "Жыццём прысягаю..." — гэта будзе сапраўдная святочная сустрэча для аматараў паэзіі. Бо ёсць святы, якія з намі заўсёды:

Амаль пяць год назад памёр паэт Яўген Крупенька — шчыры, непасрэдна-ўзнёслы, нават у бядзе вялікі жыццялюб. Былі ў ягонай душы — ураджэнца гасцінна-маяўнічай Шклоўшчыны— святло і свежасць дняпроўскай абалоні, была ўстойлівая яснасць і многа непарушнай увагі да людзей. Усё гэта ёсць і ў вершах, якія Яўген, будучы ўжо на бальнічным ложку, пісаў да свайго апошняга дня.

Творы з літаратурнай спадчыны Яўгена Крупенькі маюць права на доўгае і плённае жыццё. Хай жа яны прынясуць аматарам роднага паэтычнага слова добрую чалавечую радасць, якую спрадвеку дае нам прыгожае пісьменства.

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**




## ПАДЗЯКА ДЖЭКСАНА

***Адвакат 14–гадовага хлопчыка, які абвінавачваў Майкла Джэксана ў разбэшчванні непаўналетніх, паведаміў, што яго кліент знімае абвінавачванне.***

Аднак акружны пракурор заявіў, што вырашана пакінуць справу адкрытай яшчэ на працягу пяці гадоў. Сам спявак упершыню пасля ўсіх нападкаў зрабіў паведамленне для прэсы. Ён выказаў сваю ўдзячнасць сябрам, сям'і, прыхільнікам, якія падтрымлівалі яго на працягу судзебнага працэсу,—усім, хто не паверыў у абвінавачванне.

## "КРУГЛАЯ ДАТА" Ў СПРАВЕ СІМПСАНА

***100 дзён мінула з таго моманту, калі былі забіты жонка вядомага спартсмена Сімпсана і яе сябар.***

Столькі ж Сімпсан, як галоўны абвінавачваемы, знаходзіцца пад следствам, папярэдні этап якога зараз скончыўся.

Лёс спартсмена будуць вырашаць 12 выбраных прысяжных.

## МАЛЬТЫЙСКІ СОКАЛ "ДАЛЯЦЕЎ" ДА АЎКЦЫЁНА

***Адной з галоўных рэчаў, якія прадставіць нью–йоркскі аўкцыён Крысці — мальтыйскі сокал — уласнасць вядомага акцёра Уільяма Конрада, падораны яму кампаніяй "Уорнэр Бразэрз".***

Гэту статуэтку гледачы маглі бачыць у знакамітым фільме Х.Богарта "Мальтыйскі сокал". Арганізатары аўкцыёна, які пройдзе 6 снежня, збіраюцца атрымаць за гэты экспанат прыблізна 50 тысяч даляраў.

## ПРЫГОДЫ ДЖЭЙМСА БОНДА НЕ СКОНЧЫЛІСЯ?

***Пісьменніцы Ліндзе Ла Плантэ, паводле кнігі якой быў пастаўлены вядомы кінафільм "Галоўны абвінавачваемы", зрабілі прапанову напісаць сцэнарый да новай серыі пра прыгоды Джэймса Бонда.***

Спасылаючыся на занятасць, Лінда адмовілася ад прапановы, аднак выказала гатоўнасць разглядзець яе ў будучым.

## ТЭРАРЫЗМ ПА–ПАРЫЖСКУ

***4 чалавекі былі забіты ў Парыжы.***

Сярод іх 2 паліцэйскія і 2 таксісты, якія выпадкова апынуліся на месцы здарэння. Злачынцы былі арыштаваны, матывы іх дзеянняў пакуль не вызначаны.

## ЗЕМЛЯТРУС У ЯПОНІІ

***Моцны землятрус адбыўся ў Японіі.***

Асабліва пацярпелі яе паўднёвыя раёны, дзе магутнасць штуршкоў дасягала 4,5 бала. Тысячы жыхароў з гэтых раёнаў былі эвакуіраваны, 180 чалавек атрымалі раненні. Пашкоджаны мост, чыгунка, будынкі. Моцныя падземныя штуршкі былі зарэгістраваны таксама і на Курыльскіх астравах.

## ПАСЛЯ ДОЎГАГА ПЕРАПЫНКУ

***Зноў адкрыты аэрапорт у былой сталіцы Югаславіі — Белградзе.***

Цяпер праз Белград лятаюць самалёты еўрапейскіх дзяржаў, а таксама адкрыты рэйсы ў Італію. Белград заявіў, што не знаходзіцца больш у стане вайны з Босніяй. У далейшым ён мяркуе наладзіць эканамічныя сувязі з дзяржавамі Еўропы.

